Моўныя спрэчкі

# Апошні, а можа і першы бастыён свабоды

*Большасць з нашых чытачоў ведаюць, што ў ЗША знаходзіцца і пряцуе прызнаная многімі краінамі свету Рада Беларускай Народнай Рэспублікі ... Але ці ўсе ведаюць, чым канкрэтна яна займаецца. Адзін з добраахвотна ўзятых на сябе ейных пачэсных клопатаў — клопат пра захаванне чысціні роднай мовы. Не так даўно Рада прыняла адмысловую пастанову па гэтай праблеме. У ёй звяртаецца ўвага міжнароднай і беларускай грамадскасці на тое, што палітычны рэжым у Беларусі параненйшаму, як тое было за камуністамі, варожа ставіцца да мовы, вынішчае яе з дзяржаўнага і бытавога ўжытку, забараняе вяртанне да ўласцівых беларускай мове асаблівасцяў і адметнасцяў, працягваючы тым самым бальшавіцкую палітыку так званага " набліжэння беларускай мовы да расейскай". Рада мяркуе склікаць на гэты конт міжнародную навукова-практычную канферэнцыю з тым, каб пацвердзіць самабытнасць мовы, патрабаваць ад беларускай улады зняцця перашкодаў на шляху вяртання мовы да сваёй адметнасці, праз якую толькі і магчыма шырокае сапраўднае нацыянальнае Адраджэнне.*

*З гэтай нагоды каментар Міхася Булавацкага, старшыні Магілёўскай абласной арганізацыі ТБМ.*

**Мова можа стаць апошнім бастыёнам свабоды.**
*Хайнрых Бёль, нямецкі пісьменнік, нобелеўскі лаўрэат.*

Некаму можа падасца, што гэта нейкія дзіцячыя гульні. Рада неіснуючай краіны БНР, яе пастановы ... Чарговае донкіхоцтва?

Але аглянемся і задумаемся.

На Ўсебеларускі кангрэс, скліканы ў снежні 1917 года з'ехаліся прадстаўнікі ўсіх сацыяльных слаёў і праслоек беларускага грамадства, усіх нацыянальных меншасцяў і большасцяў — амаль 2000 дэлегатаў. Гэта быў цалкам паўнамоцны, дэмакратычна створаны орган, у чым спачатку не сумняваліся і бальшавікі, бо нават выдзелілі частку грошай, неабходных для яго правядзення. Але пазней, калі пабачылі, куды скіраваныя рашэнні кангрэса ( а яны былі скіраваны на суверэнітэт), яны ж яго і разагналі, пазней пераствраляўшы частку дэлегатаў.

Кангрэс, аднак, паспеў стварыць Раду, якой перадаў усе неабходныя для дзейнасці вышэйшага дзяржаўнага Інстытута паўнамоцтвы. З таго часу Рада БНР дзейнічае, хаця вымушана дзейнічаць у эміграцыі. Дзейнічае яна на цалкам прававой аснове, і не ўлічваць гэтага не могуць ні расейскія марыянеткі, якія і па сёння царуюць на Беларусі, ні іншыя дзяржавы, якія маюць тыя ці іншыя стасункі з Беларуссю.

Досыць верагодна, што рашэнні-пастановы Рады БНР стануць некалі законамі незалежнай беларускай дзяржавы. Я ў гэта веру і менавіта з гэтых пазіцый ацэньваю пастанову "Пра абарону мовы".

Так, 1933 год — асабліва чорны год для беларускай мовы. Рэформа беларускага правапісу, д'ябальскі прадуманая, стала тым крокам, якім сталінская тэорыя зліцця нацый і моваў пачала свой рух па неабсяжным СССР.

Беларускай мове былі нададзены прарасейскі "пранонс", пасля чаго зручна стала гаварыць, што гэта не асобная мова, а заходнерасейскі дыялект. Беларуская мова страціла сваю мяккасць, агрубілася, страціла адметнасць канчаткаў, набыла неўласцівыя для яе суфіксы -ем, -ім, -уч, -юч, -уўш ды іншыя, напалову страціла перадмацескное "я", "прыняла" безнацыскныя "э" і "о" (словы-наватворы загадана было вымаўляць з расейскім "о": "сацыялізм, комунізм, комітэт ...).

Знявечаная мова 60 год навязвалася народу праз школы і газеты. Узгадаваныя за гэты час ледзь не пакаленні беларускіх пісьменнікаў і журналістаў, навукоўцаў і настаўнікаў іншай беларускай мовы не ведалі і не хочуць ведаць (менавіта з іх боку чуюцца скаргі, што беларускамоўная літаратура, друк і школа не карыстаюцца попытам у насельніцтва). Насамрэч гэта **іх** мова не карыстаецца попытам.

Такая мова, на жаль, стала нашай агульнай мовай. Народ, як змог, прыхарашыў і акультурыў яе, надаў знявечанай мове высакародства, ачысціў ад дзікунскіх наваўвядзенняў. І яна не згінула канчаткова, ажыла і нават расквітнела Быкавым і Караткевічам, Гілевічам і Брылём .. І не думае знікаць. А ўзняцца, ажыць і ўзмацнець пасля такіх ран можа толькі вельмі жыццяздольная мова. Гэтай мове наканавана доўгае і плённае жыццё. І таму самы час ёй ачысціцца ад чужацкага ўплыву, вярнуць ёй ранейшую мілагучнасць. І ў нечым удасканаліцца, бо апошнія 60 гадоў зусім выкідаць з яе гісторыі не трэба.

У гэтым святле вельмі актуальным становіцца правядзенне навукова-практычнай канферэнцыі, пра якую гаворыцца ў Пастанове Рады БНР. І можа нават не адной канферэнцыі, а некалькіх, паміж якімі трэба, каб працавала моўная аўтарытэтная камісія.

Зразумела, што не ўсё з "дарэформавага" мінулага будзе прынята ў новы правапіс. Зразумела, што будзе прынята нешта з таго, чаго 60 год назад не было. Зразумела, што будуць гарачыя спрэчкі і дэбаты. Чакаецца нават рэформа альфабэту (алфавіту, калі гаварыць з расейскім "пранонсам"), бо зусім відавочна, што дзве літары трэба будзе ўставіць туды: "дзэ" і "джэ". Сёння гэтыя гукі падаюцца пры пісьме падвойнымі літарамі, што стварае непатрэбныя праблёмы для чалавека, які пачынае вывучаць беларускую мову (я чуў, як чытаюць: д-зюба, дож-д-ж; а расейскае тэлебачанне расказвала пра беларускія "Дзяды", выгаворваючы так: "Д-зяды"; ды і ў беларускіх газетах часта спатыкаюся на пераносах кшталту "пад-зівіцца"). Сказаныя шэптам, гэтыя гукі чуюцца як "цэ" і "чэ". а не падвойным "тсэ" і "тшэ". Таму і трэба каб яны мелі свой знак-літару.

Усё гэта чакае грунтоўнага і асцярожнага ўпарадкавання. Усё гэта пройдзе праз доўгія і вострыя дыскусіі. Але галоўнае пытанне трэба зняць адразу: які з правапісаў прыняць за аснову — сённяшнюю ўладкаваную наркомаўку ці класічную граматыку (да 1933 г.). **Адказ відавочны: калі чалавека выпускаюць з вязніцы, пераканаўшыся ў памылковасці ягонага зняволення, яму павінны вярнуць усё, што ў яго было да зняволення.**

Беларускай мове павінны вярнуць адабранае. Гэта неабходны крок да яе новага жыцця, да яе новай славы.

***Міхась Булавацкі,***
***старшыня абласной арганізацыі Таварыства беларускай мовы.***

# Не запляміць чыстае імя

Мноства і разнастайнасць думак і светапоглядаў у грамадстве — з'ява непазбежная і неабходная, але плюралізм такі кіраўніцтву рэспублікі не падыходзіць. Прыпамінаю, як на ўсебеларускім сходзе ў 1996 г. прэзідэнт у ліку апазіцыянераў, якія супрацьдзейнічаюць яго пазіцыі і погляду, назваў вядомага паэта і грамадскага дзеяча Ніла Гілевіча. Ды не ўласным, а агульным іменем "гілевічы", што з'ўляецца ўскосным пацверджаннем ягонай папулярнасці, бо ён не адзін, падобных многа. У чым? Вядома, у гарачай любві да Радзімы, у адданым служэнні Бацькаўшчыне, у бескампраміснай барацьбе за нацыянальную ідэю, што і выклікала непрыхільныя адносіны да знакамітага паэта кіраўніка дзяржавы. Выявы патрыятызму народнага паэта Беларусі бачны ва ўсіх вершах, многія з якіх сталі вядомымі песнямі. У адным з санетаў яшчэ ў 1965 г. ён напісаў.



***"Я рад, што сэрцам***
***да цябе прырос,***
***Што ты надзейнай стала***
***мне апорай ...***
***Да хваль тваіх,***
***і соснаў, і бяроз."***

Гэта пра Айчыну. А якім
***і соснаў, і бяроз."***
Гэта пра Айчыну. А якім
замілаваннем да роднай зямлі гучыць яго песня-верш

***"Вы шуміце, шуміце***
***Нада мною бярозы,***
***Калыхайце, люляйце***
***Свой напеў векавы,,,"***

Шчырыя, сардэчныя вершы яго ў друку заўсёды радуюць, хвалююць чытачоў.

Шматгранная навуковая, грамадская і палітычная дзейнасць паэта. Прафесар, былы дэпутат і старшыня камісіі Вярхоўнага Савета XII склікання, адзін з заснавальнікаў Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны, доўгачасовы старшыня яго Рады ў недалёкім мінулым. Ён непахісны змагар за адраджэнне і пашырэнне нашай мовы на Беларусі. У лісце-звароце да студэнцкай і вучнёўскай моладзі Ніл Сымонавіч выкрывае "салодкую хлусню пра раўнапраўе дзвюх моў ("Наша слова" №35,1996 г.). Звяртаецца да моладзі са словамі: "Помніце, ужо на вас кладзецца адказнасць за лёс нашай незалежнай дзяржавы" ("НС", №39, 1996г.)

Яго непахісная пазіцыя ў абарону роднага слова і культуры, эмацыянальныя і пераканаўчыя прамовы, выступы ў друку супраць дыскрымінацыі беларускай мовы, якую праводзяць асімілятары, з'ўляецца значнай перашкодай на іх шляху. Такой жа гарачай і палымянай была яго прамова на чарговым з'ездзе пісьменнікаў Беларусі аб лёсе і сучасным стане нашай мовы, надрукаваная ў "Народнай волі" і "Нашым слове" пад загалоўкам "І з нейкай садысцкай азвярэласцю". Вось чаму антыбела-

Але немагчыма прынізіць, зганьбіць, запляміць светлае імя народнага паэта, які непарыўна зганьбіць, запляміць светлае імя народнага паэта, які непарыўна звязаны з лёсам Радзімы, яе народам. Яго веру ў лепшую іх будучыню, як і ўсіх патрыётаў, поўна і цвёрда вырашаюць словы яго ж верша:

***"Равуць вятры,***
***грымяць грамы,***
***Пыл засціць вочы нам,***
***і ўсё ж***
***Мы дойдзем, дойдзем мы***
***Да Беларусі!"***

***Міхась Пузіноўскі***
***ветэран педагагічнай працы.***

# Любіце і шануйце родную мову!

Мой родны беларускі край!
Не злічыць тваё багацце!
Неабсяжныя прасторы палёў!

Мілы сэрцу майму звонкія песні чаек на ракою, залаціста-барвовыя лісточкі восені, ёлачка маленькая ў казачным лесе.

Любы і незабыўныя вы, родныя мясціны! Я помню вас, стройныя бярозкі пад акном сваёй хаты.

Помню і песню жаваранка, лес з напевам шумлівых верхавін сосен.

Вы родныя мне, бо нарадзілася я сярод цудоўнай прыроды беларускага краю, дзе жыве такі просты народ, залатымі рукамі якога здабыта ўсё наша багацце.

* * *

А песня маёй матулі, яе роднае беларускае слова?!

Гэта яна, дарагая мая, навучыла мяне сказаць яго ўпершыню, ступаючы яшчэ маленькай першы крок.

***З малых дзён чую я цябе, роднае слова,***
***Сярод сосен шумлівых, квяцістых лугоў.***
***І вытканa ты, мая родная мова,***
***З незабудкаў, рамонкаў, цвітучых садоў.***

Матуля чытала мне беларускія казкі, спявала калыханку, народныя песні.

Яна навучыла мяне любіць свой родны край, свой народ, сваю родную мову.

І гэта найдаражэйшы вечны скарб душы, які адабраць ад нас ніхто і ніколі не здолее.

Родная мова !

Ты саграваеш сэрца, асвятляеш дарогу ў жыцці.

І як жа не любіць цябе, матуліну мову?!

Ты такая мілая, пявучая, ласкавая, і я люблю тваё слова, якое тлумачыць усе цуды свету.

***Ты тлумачыш нам слова ўсе дзівы свету,***
***Што бачыць дзіцячае вока вакол.***
***Матуліна мова ласкава спрадвеку***
***І дасталася нам ад нашых дзядоў.***

І гэта самае дарагое і прыгожае свайго сэрца я дарыла вучням, калі чытала ім творы нашых паэтаў — Якуба Коласа, Янкі Купалы, Максіма Багдановіча ...

Даносіла да кожнага дзіцячага сэрца часціцу душы песняра — яго пачуцці, думы пра свой родны край, сваю родную мову:

***Голас полем пракаціўся,***
***У бары аддаўся:***
***"А дзе ж тая крынічанька,***
***Што голуб купаўся?!"***
***І снуюцца сумна ў сэрцы,***
***Уюцца адгалоскі***
***Роднай песні, простай песні***
***Беларускай вёскі ...***
***(М.Багдановіч."Вечар").***

Вучыла берагчы скарб — наша роднае беларускае слова, якое пакінулі нам у спадчыну нашы дзяды і прадзеды.

Прасіла шанаваць, не цурацца, не забываць сваю родную беларускую мову, як любіў яе і не забываў наш беларускі першадрукар Францішак Скарына, вялікі сын беларускага народа. Выданнем кніг на роднай мове ён разумеў, што шчыра і цёпла гаварыць з народам можна толькі на жывой беларускай мове.

І выдатны асветнік, гуманіст пераклаў кнігі "Бібліі" на беларускую мову, даступную разуменню свайго народа.

Кнігі Францішка Скарыны даходзілі да сэрца і розуму суайчыннікаў, неслі ім святло асветы, дапамагалі стаць больш пісьменнымі.

Як запавет нашчадкам гучаць яго мудрыя і пранікнёныя словы:

***"Любіце кнігу, бо яна — крыніца мудрасці, ведаў і навукі, "лекі для душы", любіце і шануйце, як святыню, роднае слова, любіце бацькоўскую зямлю!"***

І ўсе гэтыя расказаныя словы пра Францішка Скарыну знаходзілі цёплы водклік у сэрцы вучняў.

Яны вучылі іх любіць сваю родную мову, гаварыць на ёй, не забываць яе так, як — наш беларускі вучоны з слаўнага горада Полацка, як не забывае сваёй беларускай матулінай песні Багдан Андрусішын - Данчык, які нарадзіўся і вырас далёка за акіянам, у Амерыцы.

І такія ласкавыя яго словы да нас: ***"Дарагія мае! Не саромейцеся гаварыць на сваёй роднай мове. Наша мова такая ж ласкавая, як і сам беларускі народ. Любіце яе, заўсёды гаварыце на сваёй роднай мове, матулінай мове!"***

Душой і сэрцам жыве пясняр з беларускім народам і дорыць яму свае напеўныя песні роднага краю.

У яго цудоўным выкананні, мілым, ласкавым голасе адчуваецца радасць і смутак.

Радасць — пра незабыўнасць сваёй роднай беларускай матулінай песні і смутак — за развітанне са сваім родным краем, матуліным краем.

І песня родная мілей песень чужых.

* * *

І жыло ў вяках наша роднае беларускае слова!

Не загінула наша роднае слова пад прымусам, так не цураймася мы яго вольнага!

І вечна будзе жыць, квітнець, прыгажэць наша родная беларуская мова, родны наш край, працавіты беларускі народ, які ад шчырага сэрца я люблю!

***Так не цураймася мы сваёй роднай мовы —***
***Скарбу сэрцаў нашых мілых дзядоў.***
***Век жыць табе, роднае беларускае слова,***
***Як жыло ты раней ужо многа вякоў.***

***Ю.Цыбулька, настаўн.- пенсіян.***

